*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА



27 чэрвеня 1991 г. ЧАЦВЕР

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

№ 124 (21652)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ВАЖКІ ПРЫВАРАК

**ГРОДНА. (Б. Пракопчык). У два разы павялічыліся сярэднія стаўкі рабочых і аклады кіраўнікоў, спецыялістаў і служачых гродзенскага ВА «Азот».**

Акрамя таго, на прадпрыемстве выплачана адзінацовая матэрыяльная дапамога, кампенсаваны праезд у гарадскім транспарце і харчаванне ў заводскай сталовай. Але ўсё гэта стала магчымым дзякуючы самім хімікам. За пяць месяцаў года тут выраблена прадукцыі на 3 мільёны 710 тысяч рублёў больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Аднак кіраўніцтва аб'яднання прама сказала людзям: калі вынікі работы ўпадуць, то і аплата будзе вернута на ранейшыя пазіцыі. Так што ёсць прычына задумацца...

### ЦІ ЁСЦЬ ВЫЙСЦЕ З БЯЗВЫХАДНЫХ СІТУАЦЫЙ?

**СКІДЭЛЬ. У складаную сітуацыю трапіў калектыў Скідэльскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Няма валюты, і як вынік — спыніліся пастаўкі латэксу з-за мяжы (латэкс — кампанент, з якога вырабляюць пальчаткі, дыванчыкі, плавальныя шапачкі і інш.). Зараз адна вытворчая лінія наогул прастойвае. З'явіліся лішнія рабочыя рукі, даводзіцца раней часу адпраўляць людзей на заслужаны адпачынак.**

Але на камбінаце імкнуцца палепшыць сітуацыю. Сёння тут вядзецца пераарыентацыя на выпуск са смалы ПВХ вельмі дэфіцытных медыцынскіх пальчатак. Ужо наладжаны цесныя дзелавыя сувязі з вучонымі, таму ёсць усе падставы лічыць, што сваёй якасцю новая прадукцыя нічым не ўступіць лепшым замежным узорам. Адно хвалюе: не ператварыліся б у бюракратычную кругаверць неабходныя для пачатку справы ўзгадненні.

### ПЕРШЫ «ІМПУЛЬС»

**ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН. (С. Расолька). Пад такой назвай у пасёлку Смілавічы пачало сваю працоўную дзейнасць першае ў раёне малое прадпрыемства на дзяржаўнай уласнасці.**

Заснавальнікамі «Імпульса» сталі тры арганізацыі — будаўніча - эксплуатацыйнае аб'яднанне «Мінскмеліярацыя», малое дзяржаўнае навукова-вытворчае прадпрыемства пры Мінскім аб'яднанні вылічальнай тэхнікі і мясцовае міжраённае ўпраўленне асушальна-арашальных сістэм.

Як расказаў дырэктар «Імпульса» І. Круглік, асноўная мэта дзейнасці прадпрыемства — выпуск тавараў народнага спажывання. Ужо ў хуткім часе плануецца наладзіць выраб ахоўных прыстасаванняў для аўтамабіляў, а затым — даволі складаных (і дэфіцытных) радыётэхнічных прыстасаванняў для будаўніцтва, аўтатранспарту, сельскай гаспадаркі. Асартымент будзе пашырацца.

### ГАРКОМ ЗАГАВАРЫЎ ПА-БЕЛАРУСКУ

**НАВАГРУДАК. (В. Пятровіч). З 1 ліпеня ў Навагрудскім гаркоме КПБ усё справаводства будзе весціся толькі на беларускай мове. Аналагаў такому рашэнню ў раёне, ды і, відаць, у вобласці пакуль няма.**

Пры гаркоме партыі працуе гурток па вывучэнню і ўдасканаленню ведаў па роднай мове, заняткі ў якім праводзіць старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны У. Бармута. Трэба сказаць, што традыцыйныя «планёркі» па панядзелках тут вядуцца па-беларуску. Пачатак зроблены — прыклад не павінен застацца без увагі.

### ДА НАС ПРЫЙШОЎ ПІЛІГРЫМ

**ГОМЕЛЬ. (У. Рыгораў).** Малады азербайджанец, інжынер Алішэр Ахмет-задэ Садыг Аглы за кароткі час знаходжання ў Гомелі выклікаў у гараджан сапраўднае захапленне. Яшчэ ў жніўні 1989 года ён пешшу адправіўся ў падарожжа па краіне з адной толькі мэтай: вуснамі свайго славутага земляка паэта і мысліцеля Нізамі Гянджэві, які жыў і тварыў на рубяжы XII — XIII стагоддзяў і 850-годдзе якога з дня нараджэння будзе адзначацца сёлета, прапагандаваць лепшыя чалавечыя якасці ў наш неспакойны час. Ён пабываў на Урале, Сібіры, Далёкім Усходзе, Паволжы, Беларусі. З Гомеля шлях Алішэра ляжыць на Украіну. Аб уражаннях свайго цікавага і карыснага падарожжа ён мае намер напісаць кнігу.

### ГОРШ ЗА ЧАРНОБЫЛЬ?

**ЖЛОБІН. (М. Шуканаў). Адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Жлобінскай гарадской арганізацыі ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл.**

Больш дзесяці тысяч чалавек налічвае сёння гэта аб'яднанне ў горадзе на Дняпры. Многія з іх патрабуюць маральнай і матэрыяльнай падтрымкі. На жаль, вырашэнне ветэранскіх праблем усё больш ускладваецца на плечы саміх ветэранаў. У цяжкіх эканамічных умовах многія прадпрыемствы забываюцца пра сваіх былых работнікаў, не аказваюць ім неабходную дапамогу. Па гэтай прычыне ўзрастае роля ветэранскай арганізацыі, ад якой патрабуецца аб'яднанне намаганняў дзеля вырашэння сваіх праблем. Аб усім гэтым гаварыў на канферэнцыі старшыня гарсавета арганізацыі Андрэй Сяргеевіч Елісееў. Эмацыянальнымі атрымаліся і спрэчкі па дакладу старшыні. Асаблівай крытыцы падвергся БНФ, дзейнасць якога, на погляд ветэранаў Жлобіншчыны, уяўляе сёння для беларускага народа большую небяспеку, чым чарнобыльская бяда.

### ГРОШЫ АД ПРЭЗІДЭНТА СССР

**МАГІЛЁЎ. Вядома, што, атрымаўшы Нобелеўскую прэмію, Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў перадаў частку грошай для Магілёўскай дзіцячай абласной бальніцы. Што здарылася з прэзідэнцкімі грашамі?**

Як паведаміла грамадска-палітычная газета «Веснік Магілёва», са слоў галоўнага ўрача бальніцы Івана Лесечкі, 150 тысяч долараў сапраўды пералічаны на іх рахунак у Мінскім аддзяленні Знешэканомбанка СССР. На гэтыя грошы плануецца набыць на міжнароднай выстаўцы «Медык-91» два аналізатары, якія дазволяць беспамылкова даведацца аб хваробе дзіцяці.

### АДПАЧНУЦЬ Ў НЯМЕЦКІХ СЕМ'ЯХ

**МІНСК. (У. Гойтан). З аэрапорта «Мінск-2» узяў курс на нямецкі горад Штутгарт самалёт «Боінг» авіякампаніі ФРГ. Пасажыры яго — дзеці з забруджаных тэрыторый, якія адпачнуць і паправяць сваё здароўе на нямецкай зямлі.**

Асобная група — 63 хлопчыкі і дзяўчынкі з Гомельшчыны — была сфарміравана па ініцыятыве псіхолага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр», прэзідэнта Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў В. І. Конанцава. Мы ўжо расказвалі ў адной з публікацый аб тым, што ў час апошняй сваёй паездкі ў ФРГ Васіль Іванавіч дамовіўся з грамадскасцю Мюнхена, дзе ён праводзіў свае аздараўленчыя сеансы, наконт арганізацыі там адпачынку беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны. Частка сродкаў была зароблена ім у час правядзення дабрачынных сеансаў, а таксама сеансаў лячэння па тэлексу, якія ён пастаянна праводзіць з пацыентамі з ФРГ. Але асноўную суму сабралі нямецкія сябры па ініцыятыве жонкі прэзідэнта кампаніі «І. Л. М.» Гудрун Лееб. Дзеці ў ФРГ будуць жыць у нямецкіх сем'ях.

Першая такая група адпраўлена ў ФРГ па чыгунцы яшчэ 15 чэрвеня, а трэцяя — паедзе туды з 1 жніўня. Усяго па ініцыятыве В. І. Конанцава за лета ў ФРГ паправяць здароўе 170 дзяцей з зоны жорсткага радыяцыйнага кантролю. Дарэчы, кошт праезду па чыгунцы туды і назад аплачвае НВА «Цэнтр».







Мы прыехалі на вытворчы ўчастак «Астрамечава» калгаса «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна ў час, калі вяскоўцам з-за работы дыхнуць не было калі. І не дзіва: дзень у дзень ішлі дажджы, травы перастойвалі, а ўбраць іх не было ніякай магчымасці. І вось доўгачаканае сонечнае надвор'е. На 400 тон сенажу і 100—120 тон сена штодзённа папаўняюць фуражныя запасы гаспадаркі механізатары ўчастка. З 1.000 гектараў траў, якія сёлета ўрадзілі проста цудоўна, у Астрамечаве яны скошаны ўжо на трох чвэрцях плошчы.

У адрозненне ад іншых гаспадарак нарыхтоўку сена для асабістых кароў калгаснікаў тут не адносяць на «потым». Для 290 кароў, якія належаць працаўнікам брыгады, назапашана больш як 350 тон сена. Прытым фізічныя затраты калгаснікаў былі мінімальныя: касілкі скасілі траву, прэс-падборшчык спрасаваў сена, не было праблем і з дастаўкай яго на падворкі. А ўвогуле калгас гарантуе кожнаму свайму члену, што для зімоўкі адной каровы ён будзе мець як мінімум 2,5 тоны сена. Гэта ў спалучэнні з іншымі відамі корму зусім нядрэнна.

**Я. РАСКОЎСКІ.**

**На здымках:** 1) Сцяпан **Леанец** прыехаў у гаспадарку з Украіны, прыжыўся тут, працуе рупліва, у ахвотку. Сын Віця любіць глядзець на бацькаву работу, любіць дыхаць водарам свежаскошанай травы і марыць, калі гэтак жа, як бацька будзе кіраваць разумнымі машынамі; 2) ідзе нарыхтоўка сенажу; 3) механізатар Аляксандр **Ветраў**.

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Родная мова загучыць у парткомах

**Больш года мінула з часу прыняцця Вярхоўным Саветам рэспублікі Закона «Аб мовах у Беларускай ССР». Чытачы «Звязды» цікавяцца, як гэты Закон увасабляецца ў жыццё партыйнымі камітэтамі. Наш карэспандэнт сустрэўся з загадчыкам гуманітарнага аддзела ЦК КПБ В. Мулярчыкам і задаў яму некалькі пытанняў.**

**— Валерый Уладзіміравіч, што для Вас асабіста азначае беларуская мова?**

— Перш за ўсё — гэта мая родная мова, аб чым я нязменна сведчу ў кожнай чарговай анкеце.

Вось мы пачынаем гаворку пра родную мову, а ў мяне перад вачыма — ціхі ўскраек Баранавічаў, дзе нарадзіўся. Зноў бачу невялічкія, у зялёных прысадах вёсачкі пад Карэлічамі, адкуль пайшоў мой род і дзе кожнае лета разам з вясковымі аднагодкамі я спасцігаў нялёгкую граматыку сялянскага жыцця. Там да глыбіні душы палюбіў самотныя песні краю. Прыгадваю, як вечарам вясковая малеча збіралася ля хаты цёткі Валі. А яна, усеўшыся на прызбе прасці кудзелю, апавядала нам казкі. Ведала іх цётка Валя безліч.

Зразумела, што і мой светапогляд фарміраваўся ў стыхіі роднай мовы, нашага побыту, нацыянальнай культуры. Праўда, вучыцца мне давялося ў рускай школе: І ва універсітэце на матэматычным факультэце, куды паступіў пасля, выкладанне вялося толькі на рускай мове. І ўсё ж тое, што атрымаў у дзяцінстве, пакінула ў жыцці трывалы, незабыўны след. Вось таму і не стаіць асабіста перада мной пытанне — як адносіцца да мовы бацькоў.

**— Цяпер з розных бакоў чуюцца абвінавачванні, што нацыянальная культура, беларуская мова апынуліся ў крызісным стане нібыта па віне КПБ. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Вы задалі вельмі надзённае пытанне. У ім, як мне здаецца, ёсць два ўзаемазвязаныя аспекты. Першы. Наогул аб культурнай палітыцы КПСС—КПБ, аб яе складанай гісторыі. Гэта — надзвычай шырокі абсяг для абмеркавання. У адным інтэрв'ю пры ўсім нашым жаданні яго не ахапіць. Таму будзе правільней, калі гэты аспект мы пакінем да восеньскага пленума ЦК КПБ, на якім мяркуецца дэталёва разгледзець пытанні культурнай палітыкі Кампартыі Беларусі на сучасным этапе. Дарэчы, такога пленума ў гісторыі нашай партыі, ва ўсялякім разе ў пасляваенны час, яшчэ не было.

А што датычыць другога аспекта, то сучасная палітыка КПБ у адносінах да беларускай мовы, моў іншых народаў, што насяляюць рэспубліку, была выразна акрэслена XXXI з'ездам Кампартыі Беларусі, а ў практычным накірунку рэальна пацверджана на нядаўнім пасяджэнні Бюро ЦК КПБ.

**— Вы маеце на ўвазе тое пасяджэнне Бюро, дзе разглядалася пытанне аб актывізацыі работы ў партыйных камітэтах і арганізацыях па рэалізацыі Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР»?**

— Менавіта яго. На Бюро ЦК адбылася дзелавая і прынцыповая гаворка. Прагучала нямала крытычных заўваг, прапаноў. Скажу шчыра, у той гаворцы абыякавых не было. Выразна адчувалася агульная заклапочанасць, імкненне як можна лепш і паўней выкарыстаць усе магчымасці для ўвасаблення Закона аб мовах у практычным жыцці.

**— Гаворка вялася толькі вакол пытанняў, як выканаць патрабаванні Закона?**

— Не зусім. Ёсць яшчэ адзін важны дакумент, які нельга было абысці ўвагай. Я кажу пра «Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР». Вось, скажам, гэтай праграмай прадугледжана падрыхтаваць пералік пасад, для заняцця якіх патрабуецца веданне беларускай, рускай або іншай мовы, а таксама звязаныя з гэтым кваліфікацыйныя патрабаванні для заняцця гэтых пасад. А на пасяджэнні Бюро ЦК члены яго выказаліся за тое, каб усе партыйныя работнікі, падкрэслю — усе!—валодалі беларускай і рускай мовамі.

А ўвогуле, распрацаваныя намі і зацверджаныя Бюро ЦК мерапрыемствы цалкам адпавядаюць патрабаванням Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы, рыхтаваліся і абмяркоўваліся з членамі Камісіі ЦК КПБ па навуцы, адукацыі і культуры, прадстаўнікамі інтэлігенцыі, партыйнымі работнікамі — усімі, хто будзе мець прамое дачыненне да іх выканання.

**— А што канкрэтна прадугледжана планамі мерапрыемстваў? Што робіцца цяпер?**

— Ужо сёння ў большасці партыйных камітэтаў працуюць курсы па вывучэнню беларускай мовы. Кіраўніцтвамі спраў партыйных камітэтаў зроблены фінансавыя адлічэнні на матэрыяльнае забеспячэнне ўсіх мерапрыемстваў. Ужо цяпер ідзе падрыхтоўка да выдання на беларускай мове нарматыўна-метадычных дакументаў КПБ. У штатным раскладзе ЦК КПБ, абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі уводзяцца пасады перакладчыкаў, стылістаў і г. д., якія дасканала валодаюць беларускай мовай. Я перакананы, што з цягам часу неабходнасць у перакладчыках адпадзе. Для выканання Закона аб мовах прымаюцца і пэўныя чыста тэхнічныя захады — мяняюцца тэксты на шыльдах, пячатках, бланках, шрыфты для друкавальных машынак і г. д.

**— І ўсё ж, калі беларуская мова стане ў партыйных органах рабочай?**

— Згодна з пастановай Бюро ЦК КПБ партыйныя камітэты павінны так наладзіць работу, каб ужо праз тры гады дзяржаўная мова, гэта значыць беларуская, панавала як рабочая пры правядзенні з'ездаў, канферэнцый, пленумаў, сходаў.

**— Валерый Уладзіміравіч, калі не сакрэт, ці шмат супрацоўнікаў апарату ЦК КПБ зусім не валодаюць беларускай мовай?**

— Зусім?.. Такіх я не ведаю. Іншая справа — у якой меры? Заняткі на курсах беларускай мовы паказалі, што пераважная большасць супрацоўнікаў апарата ЦК свабодна разумее беларускую мову, свабодна чытае па-беларуску. А ўсё астатняе прыкладзецца. Тут, як некалі сказаў вядомы англійскі трэнер Альф Рамсей: «Каб навучыцца гуляць у футбол, трэба гуляць у футбол». Галоўнае — ёсць жаданне.

**— А як Закон аб мовах паўплывае на дзейнасць навучальных устаноў партыі?**

— Самым непасрэдным чынам. У вучэбныя планы і праграмы Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання Кампартыі Беларусі з гэтага навучальнага года будуць уключаны ў неабходным аб'ёме курс беларускай мовы і літаратуры, курс гісторыі і культуры Беларусі. Плануецца таксама выкладанне на беларускай мове шэрагу сацыяльна-палітычных дысцыплін. Варта нагадаць і тое, што пры арганізацыі перападрыхтоўкі сакратароў партыйных камітэтаў на факультэце павышэння кваліфікацыі партыйных, савецкіх і ідэалагічных кадраў будзе ўдзяляцца значная ўвага пытанням нацыянальна-культурнай палітыкі КПБ, рэалізацыі Закона аб мовах, вядзенню справаводства на беларускай мове.

**— Мова — скарб народа. Кроўная зацікаўленасць яе адраджэннем, пашырэннем сферы ўжытку павінны стаць клопатам кожнага камуніста і беспартыйнага. Ці не так, Валерый Уладзіміравіч?**

— Безумоўна так. І толькі на аснове агульных намаганняў усяго нашага народа, усіх палітычных плыняў, партый, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў мы можам выкарыстаць той спрыяльны шанс, які дадзены часам. Мяне па-добраму парадавала, што менавіта такая думка прагучала і ў многіх выступленнях дэлегатаў II з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, які нядаўна прайшоў у Мінску. Было б толькі на карысць справе, каб думка, што цяпер выкрышталізавалася ў разуменні многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі, стала дамінуючай і ў асяроддзі тых, хто лёс роднай мовы параненейшаму спрабуе вырашаць на мітынгах, з дапамогай розных заяў і адозваў.

Лёс мовы павінен стаць нашым агульным клопатам, а значыць, і сумесным прыкладаннем сіл.

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР

Пад старшынствам М. І. Дземянцея 25 чэрвеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Разгледжаны ход рэалізацыі прапаноў і заўваг пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, народных дэпутатаў Беларускай ССР, выказаных пры абмеркаванні Дзяржаўнага плана і Дзяржаўнага бюджэту рэспублікі на 1991 год.

Па гэтаму пытанню заслуханы паведамленні намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР, Старшыні Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па эканоміцы і планаванню С. С. Лінга, Міністра фінансаў Беларускай ССР С. П. Янчука і Старшыні Планавай і бюджэтна - фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета БССР Р. І. Унучкі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прызнаў недастатковай работу Савета Міністраў БССР, асобных міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, выканкомаў абласных Саветаў народных дэпутатаў па развіццю магутнасцей для выпуску тавараў народнага спажывання, будаўніцтву жылых дамоў, аб'ектаў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, народнай адукацыі, культуры, эфектыўнаму выкарыстанню сродкаў, якія выдзяляюцца на камунальнае будаўніцтва і добраўпарадкаванне, капітальны рамонт.

У прынятай пастанове падкрэсліваецца, што Савету Міністраў Беларускай ССР неабходна забяспечыць безумоўнае выкананне ў 1991 годзе заданняў, прадугледжаных Дзяржаўнай саюзна - рэспубліканскай праграмай неадкладных мер на 1990—1992 гады і Дзяржаўнай праграмай па ліквідацыі ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гады.

Планавай і бюджэтна - фінансавай, іншым пастаянным камісіям Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прапанавана ўзмацніць кантроль за выкананнем рэкамендацый, заўваг і прапаноў, выказаных народнымі дэпутатамі пры абмеркаванні плана і бюджэту на 1991 год.

Разгледжаны таксама іншыя пытанні жыцця рэспублікі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета БССР.**

## Пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў БССР

Няма, бадай, сёння для ўрада нашай рэспублікі больш адказнай задачы, чым пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы, сацыяльная абарона грамадзян, якія пацярпелі ад яе. На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў БССР абмеркаваны праблемы раённых цэнтраў Гомельскай вобласці, размешчаных на тэрыторыях з узроўнем радыеактыўнага забруджвання больш як 15 кюры на квадратны кіламетр. Выказана рэзкая крытыка ў адрас некаторых міністэрстваў і ведамстваў, якія нярэдка забываюць аб сваім абавязку перад людзьмі, што знаходзяцца ў зоне бедства. Па выніках абмеркавання адпаведным падраздзяленням Савета Міністраў БССР разам з зацікаўленымі арганізацыямі, медыцынскімі і навуковымі ўстановамі даручана дапрацаваць праект пастановы і ў бліжэйшы час унесці яго ва ўрад рэспублікі.

Прыняты пастановы аб арганізацыі вытворчасці будаўніча - дарожнай тэхнікі і тэхнічна складаных тавараў народнага спажывання на заводзе «Магілёўсельмаш» і ў мінскім навукова - вытворчым аб'яднанні «Дармаш», а таксама аб дадатковых мерах па паляпшэнню аховы мацярынства і дзяцінства ў Беларускай ССР.

Абмеркаваны і рад іншых актуальных праблем жыцця рэспублікі. Вёў пасяджэнне першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. У. Мясніковіч.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў БССР.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

